№ 49 (1114)
Пятніца, 16 сакавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 80 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас





Навіны

## "Незалежны пагляд"

**Аб стварэнні грамадскай ініцыятывы па назіранні за выбарамі "Незалежны пагляд" было заяўлена на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Ініцыятарамі стварэння "Незалежнага пагляду" выступілі прадстаўнікі Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый. Яе старшыня Алесь Бяляцкі расказаў журналістам, што з амаль 500 уваходзячых у Асамблею арганізацый прыкладна 200 на прайшоўшым у студзені з'ездзе выказаліся за ўдзел у назіранні за правядзеннем выбараў, і ў першую чаргу прэзідэнцкіх. "Гэта самыя разнастайныя арганізацыі, якія знаходзяцца ў розных раёнах і гарадах Беларусі, што дае нам упэўненасць у тым, што ствараемая намі сетка дазволіць пракантраляваць значную частку выбарчых участкаў і ахапіць амаль усю тэрыторыю краіны", — сказаў Бяляцкі.

Сярод арганізацый, якія ўвайшлі ў грамадскую ініцыятыву "Незалежны пагляд", — "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", праваабарончы цэнтр "Вясна", "Цэнтр па правах чалавека", "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў" і многія іншыя. Зараз ідзе працэс стварэння назіральнай сеткі. Ва ўсіх буйных гарадах вызначаны каардынатары ад няўрадавых арганізацый. Паводле слоў Бяляцкага, зараз каля 2 тысяч чалавек выказалі жаданне ўзяць удзел у назіранні за выбарамі. Аднак перад новай грамадскай ініцыятывай паўстае задача падрыхтаваць 10 тысяч назіральнікаў і сумесна з Каардынацыйнай радай па назіранні за выбарамі (на чале з Мечэславам Грыбам) пракантраляваць 7,5 тысячы выбарчых участкаў.

Кажучы аб узмацненні ціску на назіральнікаў з боку ўладаў, Алесь Бяляцкі заявіў: "Калі ўлады супрацьдзейнічаюць аб'ектыўнаму назіранню, значыць, яны рыхтуюцца да фальсіфікацый".

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## На "Цветотроне" — "лукапроф"

**На брэсцкім заводзе "Цветотрон", напрыклад, адміністрацыя не прапускае на прадпрыемства старшыню прафсаюзнага камітэта В.Міхнюк і яе намесніка Л.Светкіну. Кіраўнікі завода так счапіліся з прафсаюзнымі лідэрамі, што можна падумаць, нібыта ў іх няма ніякіх іншых праблем.**

А ўся каша заварылася пасля таго, як кіраўніцтва прадпрыемства ўзялося ствараць паслухмяны прафсаюз, празваны ў народзе "лукапроф". Зноў можна падумаць, што гэта самая важная і самая неадкладная задача дырэктара. І што ж выйшла? Калі акружэнне дырэктара падтрымала яго, дык рабочыя адмовіліся ўступаць у "лукапроф". І тады адміністрацыя вырашыла "абязглавіць" прафсаюз. Па надуманых прычынах (нібыта ўжо няма там ранейшага прафсаюза) забаранілі прафсаюзным лідэрам наведваць прадпрыемства.

Сітуацыя на "Цветотроне" стала прадметам абмеркавання на пленуме галіновага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці (скарочана РЭП). Пленум выразіў пратэст дырэктару завода "Цветотрон" Г.Андрэюку за тое, што ён умешваецца не ў свае справы і парушае законныя правы членаў прафсаюза, не дапускае на прадпрыемства лідэраў прафсаюзнай арганізацыі. "Кінуты каменьчык" і ў бок Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, якая самаўхілілася ад аказання рэальнай дапамогі ў адстойванні законных правоў сваёй ніжэйшай арганізацыі. Вырашана таксама паўторна звярнуцца ў пракуратуру і судовыя органы аб узбуджэнні крымінальнай справы па фактах дзеянняў кіраўніцтва завода "Цветотрон". Мяркуецца, што брэсцкія прафсаюзы арганізуюць пікетаванне названага прадпрыемства.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Фундатарам пагражае дэпартацыя

**Аляксандр Лукашэнка распарадзіўся наладзіць пільны нагляд за іншаземцамі, якія бясплатна дапамагаюць беларусам. Для гэтага Лукашэнка падпісаў Дэкрэт №8 "Аб некаторых мерах па ўдасканаленні парадку атрымання і выкарыстання замежнай бязвыплатнай дапамогі".**

Паводле гэтага дэкрэта, фактычна любая бязвыплатная дапамога, ці то грашовая, ці то матэрыяльная, павінна будзе рэгістравацца ў Дэпартаменце гуманітарнай дзейнасці, які ўзначальвае памочнік Лукашэнкі Віктар Кучынскі.

Без адпаведнай ліцэнзіі ад ведамства Кучынскага выкарыстоўваць замежную дапамогу забараняецца. А атрымаць гэтае пасведчанне будзе няпроста. Бо ў дэкрэце дакладна рэгламентуюцца толькі пяць мэт выкарыстання замежнай дапамогі. Так, замежная дапамога можа выкарыстоўвацца толькі для ліквідацыі наступстваў катастроф, правядзення навуковых доследаў, спрыяння ахове прыроды і гістарычна-культурнай спадчыны, для медыцынскай і сацыяльнай дапамогі. У астатніх выпадках рашэнне аб тым, ці варта дазволіць замежнікам дапамагаць асобным беларускім грамадзянам, арганізацыям ці ўстановам, будзе прымаць ведамства Кучынскага і то не самастойна, а пасля ўзгаднення з самім Лукашэнкам.

Паводле гэтага дакумента, напрыклад, забаронена атрымліваць любую дапамогу з-за мяжы палітычным партыям і іх арганізацыйным структурам. Нават за аднаразовае парушэнне гэтай забароны партыю могуць пазбавіць рэгістрацыі. Яшчэ большую пагрозу нясе дэкрэт незалежным мас-медыя і грамадскім арганізацыям. Не сакрэт, што шмат які незалежныя СМІ і "трэці сектар" атрымліваюць ад замежных фундатараў у якасці дапамогі аргтэхніку і іншыя прылады працы. Пасля ўступлення ў дзеянне згаданага дэкрэта — а адбудзецца гэта 15 сакавіка — атрымаць дазвол у Кучынскага і Лукашэнкі, вядома ж, будзе немагчыма.

Да таго ж праваахоўныя і кантрольныя органы, паводле дэкрэта атрымалі права канфіскоўваць замежную бязвыплатную дапамогу, калі яна выкарыстоўваецца не па прызначэнні. А падставы для такіх мер закладзены ўжо ў самім дэкрэце. Так, паводле дэкрэта, замежная дапамога не можа быць выкарыстана, напрыклад, для вырабу і распаўсюджвання агітацыйных матэрыялаў і іншых форм агітацыйна-масавай работы сярод насельніцтва. Кіруючыся гэтай забаронай, улады змогуць канфіскоўваць у незалежных СМІ падораныя замежнымі фундатарамі камп'ютэры ды іншую тэхніку. Самім фундатарам дэкрэт таксама пагражае пакараннямі: ад закрыцця замежнага прадстаўніцтва ў нашай краіне і выгнання з Беларусі.

**Ян МІКАЛАЕЎ, радыё "Рацыя".**

## Беда у соседей

Девочка — у своего разрушенного дома в деревне Сасово Закарпатской области, Украина. Во время наводнения по области подтоплено более десяти тысяч и полностью разрушено около тысячи жилых домов, в основном постройки 70-х годов, стены которых сделаны из кирпичей, состоящих из смеси соломы и глины. Пострадавшие районы посетил украинский президент Леонид Кучма, области обещана финансовая поддержка.

**Фото IREX/ProMedia.**

Подробности

## Двое держали Лобановича за руки, остальные рылись в его вещах

Председатель исполкома Объединенной гражданской партии Евгений Лобанович довел до средств массовой информации подробности своего ночного обыска, о котором "Народная воля" сообщала 13 марта 2001 года.

В 21.40 на перроне столичного вокзала перед вагоном №15 поезда Минск—Москва Евгения Лобановича окружили 15 неизвестных лиц, из которых трое были в милицейской форме, заломили руки и поволокли. Задержавшие не предъявили документы и не представились, что, по его мнению, свидетельствовало об их принадлежности к президентским спецслужбам.

В здании вокзала Е.Лобановичу предъявили постановление о производстве обыска. Поскольку оно, в нарушение статьи 210 УПК, не было подписано прокурором, Евгений Эдуардович отказался быть участником неправомерных действий. "Охранку" это не остановило. Двое держали партийного функционера за руки, а остальные рылись в его карманах и вещах.

Статья 110 УПК гласит: **"Немедленно после доставления задержанного лицом, осуществившим фактическое задержание, составляется протокол, в котором указывается основание, место и время задержания (с указанием числа и минут). Протокол объявляется задержанному и при этом разъясняется право на приглашение защитника"**.

Обыск проводился в отсутствие защитника. Более того, у задержанного отобрали личный телефон и, попирая статью 41 УПК, отказали ему в праве связаться с адвокатом, родственниками и руководством партии. Понятно, что протокол такого "обыска" Е.Лобанович подписать отказался. На что, по словам Евгения Эдуардовича, ему было сказано: "Будь внимателен, Женя, у нас много нераскрытых убийств".

Как пояснили функционеру ОГП в ходе "шмона" задержавшие его лица, обыск проводился в рамках уголовного дела по факту похищения Дмитрия Завадского. Как говорится, ради Бога. Только вот в качестве кого задерживали и обыскивали Евгения Лобановича? Ведь статья 107 УПК гласит, что **"задержание может быть применено только:**

**1) к лицу, подозреваемому в совершении преступления;**

**2) к обвиняемому;**

**3) к осужденному"**.

Ни по одному из этих определений Евгений Лобанович в вышеупомянутом уголовном деле не проходит. Следовательно, задержание произведено незаконно.

Если в результате прослушивания телефонов в офисе ОГП и жилищах руководства партии у прокуратуры (а это она "официально" руководила задержанием и обыском) появилось подозрение, что у Евгения Лобановича, убывающего в Москву, находятся документы, которые могут иметь значение для уголовного дела, то перед началом обыска Евгению Эдуардовичу должны были официально назвать эти документы или иные улики и предложить сдать их добровольно (часть 6, статьи 210 УПК).

Да что тут говорить, наплевать нашим органам на законы, если есть прямое указание сверху. Но почему бы ретивым исполнителям не задуматься над одним: за противоправные действия рано или поздно придется отвечать.

**Валерий ЩУКИН, правозащитник, БХК.**

## Чэмпіянат свету

**Галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе назваў прозвішчы 23 ігракоў, якія будуць рыхтавацца да адборачных матчаў чэмпіянату свету 2002 года супраць зборных Украіны (24 сакавіка ў Кіеве) і Нарвегіі (28 сакавіка ў Мінску).**

Варатары — Генадзь Тумiловіч (без клуба), Валерый Шанталосаў ("Белшына", Бабруйск), Васіль Хамутоўскі ("Вальдхоф", Германія).

Абаронцы — Андрэй Лаўрык ("Лакаматыў", Масква), Эрык Яхімовіч ("Газіантэпспор", Турцыя), Сяргей Штанюк ("Антверпен", Бельгія), Аляксандр Лухвіч ("Тарпеда", Масква), Сяргей Яскові ("Анжы", Расія), Уладзімір Шунейка ("Крылы Саветаў", Расія), Андрэй Астроўскі ("Макабі", Хайфа, Ізраіль), Эдуард Балтрушэвіч ("Факел", Расія).

Паўабаронцы — Сяргей Гурэнка ("Сарагоса", Іспанія), Аляксандр Хацкевіч, Валянцін Бялькевіч (абодва — "Дынама", Кіеў), Вадзім Скрыпчанка ("Уралан", Расія), Васіль Баранаў ("Спартак", Масква), Максім Рамашчанка ("Газіантэпспор"), Радзіслаў Арлоўскі ("Факел"), Андрэй Мілеўскі ("Шахцёр", Салігорск), Аляксандр Кульчы ("Шыннік", Яраслаўль).

Нападаючыя — Раман Васілюк, Валерый Стрыпейкіс (абодва — "Славія", Мазыр), Мікалай Рындзюк ("Газіантэпспор").

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**



Свята: падпіска!

## Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!

### Падпіска на II квартал працягваецца па 22 сакавіка ўключна

**Для індывідуальных падпісчыкаў (індэкс — 63222):**
на адзін месяц — 1500 рублёў;
на квартал — 4500 рублёў;
на паўгода — 9000.

**Для пенсіянераў, інвалідаў, уладальнікаў паўгадавой або квартальнай падпіскі (індэкс — 63429):**
на адзін месяц — 1200 рублёў;
на квартал — 3600 рублёў;
на паўгода — 7200 рублёў.

**Для ведамаснай падпіскі (індэкс — 63225):**
на адзін месяц — 3000 рублёў;
на квартал — 9000 рублёў;
на паўгода — 18.000 рублёў.

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету** Народная Воля ____ (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў ____

на 2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету** Народная Воля ____ (індэкс выдання)

ПВ | месца | літар

Кошт: падпіскі ____ руб.; пераадрасоўкі ____ руб. Колькасць камплектаў ____

на 2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

Тема дня

## Придворная тусовка

**Анатолий ЛЕБЕДЬКО, председатель Объединенной гражданской партии, вице-спикер Верховного Совета Беларуси**

Прошло пять месяцев, как, изрядно поднатужившись, Красный дом разродился. Как раз к годовщине государственного переворота. Младенца нарекли Палата №2. Однако только примерно 45% граждан страны возжелали присовокупиться к этому эпохальному событию в жизни крестного отца палаты Александра Григорьевича. Остальные проигнорировали. Это сказалось на здоровье новорожденного. Диагноз: нелегитимность и политическая неполноценность. С такими врожденными дефектами парламенты не живут.

Выборы в Палату — это второй по значимости и рекламной поддержке проект на Белорусском телевидении. Первый — это, конечно же, житие и борьба, не щадя живота своего, преподобного Александра. По осени у доверчивых и наивных сложилось мнение, что, как только укомплектуем Палату, вот тут-то житуха и начнется. Но вот уже и весна. Возвращаются птицы-эмигранты. А что изменилось за это время в жизни страны? Какими нестандартными действиями Палата удивила, какие пессимистические прогнозы опровергла? Какие мускулы, какой интеллектуальный ресурс продемонстрировала? Все это время было потрачено на то, чтобы удобно расположиться на шее налогоплательщика, да, спотыкаясь, пройтись по подиуму Совета Европы и ПА ОБСЕ. Видно, нескромность, глухота и слепота — это наследственные черты всех палат.

В Палате нет и не может быть оппозиции. Сегодня там есть, на мой взгляд, придворная тусовка, выполняющая то роль шута, развлекающего небожителей двора, то лакея, стирающего грязные подштанники и хоккейную амуницию правителя после спортивных ристалищ. Вас коробит жесткость оценки? Вам кажется это несправедливым? Тогда давайте обратимся к фактам и доказательствам.

Жизнь — не застывший бетон. Сколько подлостей, сколько гнусных провокаций и мерзопакостных деяний сотворено и претворено в жизнь властями за истекшие пять месяцев. Но слышали ли вы за это время если не возмущенный голос из Овального зала, так хоть приглушенный шепот? Хоть по какому-нибудь поводу? Пусть не по убеждениям, а хотя бы так, для видимости, для обозначения своей личной позиции на пересеченной местности нашей действительности? Может депутаты, связанные с бизнесом, вступились за бастующих на рынках предпринимателей? А идейные коммунисты-чикинцы ударили в набат по поводу попыток Лукашенко набить свой предвыборный карман за счет дешевой распродажи привлекательных предприятий страны? Или рядящиеся в тогу демократии направили депутатский запрос о ходе следствия по делам без вести пропавших Гончара, Захаренко, Завадского, Красовского? А небезразличные, хотя бы любопытства ради, поинтересовались у министра здравоохранения реальным состоянием здоровья экс-президента страны?

Может, кто-нибудь из "народных избранников" потребовал создания специальной депутатской комиссии? К примеру, по проблеме нарушения конституционных прав миллионов граждан страны, не желающих монополизации телевидения в руках одного олигарха? Или по вопросу отсутствия реальной системы контроля за расходованием государственных средств, следствием чего стало разворовывание сотен миллионов долларов? Или по проблеме хищнического уничтожения лесных массивов? А может, какой-то смельчак публично предложил провести независимую ревизию финансово-хозяйственной деятельности Управления делами А.Лукашенко?

Увы. Никто и ничего. Не здесь и не сейчас. Паралич мысли и действий.

Все, однако, предельно ясно и просто. "Лучшие представители палаты" экзамен не сдали. Свой шанс они не использовали. Не смогли или просто не захотели. Нет не только реальных действий, но даже слов. Зияющая пустота. Что сделал бы независимый депутат? Публично отмежевался от преступных деяний властей. Что предпринял бы человек с демократическими убеждениями? Он боролся бы за принципы, за ценности демократии, не ожидая, пока Григорьевич попросится на покой. Вместо этого мы созерцаем театр масок. На сцене депутаты-масочники. На кулуарных встречах с представителями "парламентской тройки" — маска демократа, в интимном общении с властями — маска борца с "радикальной" оппозицией". Им это выгодно. Их это устраивает.

В палате нет независимых депутатов. По крайней мере, пока. Независимость — это следствие свободного, честного выбора. "Независимых" же в палату избирал не народ, их выбрал Александр Лукашенко. Отсюда комплекс неполноценности. Независимость — это политические убеждения и ценности, которые ты разделяешь. А не размер желудка и количество окон в рабочем кабинете.

Вышеизложенное вовсе не означает, что палата нафарширована искренними, убежденными сторонниками режима. Или что с ними не надо работать. Там достаточно прагматичные люди. С хорошо развитым инстинктом самосохранения, быстрой реакцией на опасности и уникальной приспособляемостью к любой ситуации. Пока задница на кожаном кресле, они чувствуют себя комфортно и безопасно. У них слабость к тем, кто у власти, и пренебрежение к упавшим с трона. Я видел в 1991 году, как старая закаленная, прожженная партноменклатура образовывала очередь для записи в оппозицию. Как осенью 1995-го аграрии и коммунисты самозабвенно, как на рейхстаге, ставили подписи в поддержку импичмента президенту. Но это было следствие процессов, которые проходили извне, а не результат внутреннего вызревания Верховного Совета 12-го и 13-го созывов. Даже при наличии в своем составе демократической прослойки палата будет не в состоянии играть роль самостоятельного, самодостаточного политического центра. У них нет не только политической воли, но и реальной власти. К тому же им постоянно будут напоминать, что 95% из них обязаны своим присутствием в Палате лично Александру Григорьевичу. Образно говоря, Палата представителей не парламент, это отдел администрации Лукашенко. Чего ожидать от структуры, если большинство депутатов отказывается даже рассматривать вопрос о расширении своих же полномочий.

Попытки миссии КНГ ОБСЕ и отдельных "золотоискателей" из Европы найти золотник в отвалах пустой породы палаты достойны понимания. Надо уважать право на хобби. Но нельзя не признать, что через сито просеивается явно не то, что хотелось бы увидеть из Вены или Страсбурга. На что потрачено драгоценное время и усилия "независимых депутатов"? Явно не на борьбу с режимом. Скорее на конфронтацию с Верховным Советом и КРДС. Дело это безопасное. "Радикалы" — люди толерантные и интеллигентные. Можно с надрывом доказывать, что срок полномочий Верховного Совета пять лет, но при этом и словом не обмолвиться о том, что Лукашенко вне закона еще с лета 1999 года.

Независимые! Ау! Отзовитесь! Что может быть благороднее и честнее открытой позиции и активных действий. Проведите встречу с избирателями, если они у вас есть, на площади Октябрьской, на предмет проведения честных президентских выборов. Или в рамках майской акции "Хочу знать правду" примите участие в пикетировании администрации Лукашенко.

Незаметно пролетели четыре года присутствия в предбаннике власти Палаты №1. И что? Прошло пять месяцев после назначения Палаты №2. А все то же. Безнадега!

# Ад зарплаты да зарплаты — толькі пра яе дэбаты

*Наш субяседнік — старшыня прафсаюзнага камітэта Гомельскага радыёзавода Васіль Сцепанцоў*

**— Скажыце, які цяпер настрой у рабочых?**

— Які можа быць настрой, калі зарплата нізкая, абароткі няма... Усе занепакоены адным, як выжыць.

**— Якая ў вас зарплата?**

— Сярэдняя па заводзе — 62 тысячы рублёў.

**— Некаторыя, відаць, атрымоўваюць і меней...**

— Так. Ёсць работнікі, якія маюць толькі па 20 тысяч.

**— Колькі такіх?**

— Я не магу вось так з ходу назваць дакладны працэнт, але іх нямала.

**— А самая высокая зарплата, якая?**

— Найбольш зарабляюць інструментальшчыкі. Так, у каго стаж 20—30 гадоў ды мае вышэйшую кваліфікацыю, атрымлівае каля 150 тысяч рублёў.

**— А як жа жывуць рабочыя на 60 тысяч рублёў у месяц?**

— Сярод маіх знаёмых нямала тых, хто падрабляе яшчэ дзе. На жаль, такое стала ўжо нармальнай з'явай. Бо на адну зарплату не пражывеш.

**— Якія яшчэ праблемы, акрамя зарплаты, хвалююць рабочых?**

— Найперш усіх турбуе зарплата. Ну, яшчэ жыллё.

**— А што ў Вас з жыллём?**

— За апошнія чатыры гады пабудавалі некалькі дзесяткаў кватэр. Вядома, за кошт крэдытавання банкаў, а не за прыбытак.

**— Раней будавалі больш?**

— Канешне. Штогод здавалі дзевяціпавярховы дом. Мелі кватэр сто.

**— Колькі тады работнікаў працавала на заводзе?**

— Каля васьмі тысяч. Зараз — 2.600. І зноў стаіць пытанне аб далейшым скарачэнні.

**— Як вырашаюцца сацыяльныя праблемы? Скажам, колькі пуцёвак маеце цяпер?**

— Намнога менш, чым раней. У квартал атрымліваем дзесяці 12—14.

**— Ці ёсць праблемы з дзіцячымі садкамі?**

— Калісьці завод меў пяць сваіх дзіцячых садкоў. Цяпер іх перадалі гораду, таму што іх утрыманне даволі накладна для прадпрыемства.

**— Але месцы даюць?**

— Праблем няма. Калектыў значна пастарэў. Мала хто нараджае. Ды і хто цяпер нараджае дзяцей?

**— Рабочыя неяк выражаюць сваю незадаволенасць жыццём?**

— Вядома. Хто ж будзе задаволены такой зарплатай.

**— А як яны выражаюць сваю незадаволенасць?**

— На кожнай нарадзе ўзнімаюць пытанне. Ідуць з ім і да дырэктара, і ў прафсаюзны камітэт.

**— Завод працуе нармальна?**

— Узровень зарплаты гаворыць і пра тое, як мы працуем. Калі такая зарплата, дык і такая работа.

**— А чаму "такая работа"?**

— Прычын шмат. Асноўныя ў тым, што прадпрыемства працавала на абарону, а цяпер выпускае халадзільную тэхніку, тавары народнага спажывання. Яно не прыстасавана для вырабу такіх рэчаў. А тут яшчэ душаць падаткамі. Усё адбіваецца на цане. Ды і ў пакупнікоў грошай не шмат.

**— Ці абмяркоўваюць рабочыя палітычныя пытанні? Скажам, маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары?**

— Мяркую, нашы людзі разумныя, у кожнага ёсць вочы і вушы... Дадуць старт выбарчай кампаніі, будзем і на гэтую тэму гаварыць.

**— Няўжо іх не хвалююць размовы пра магчымага адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл? Сярод вылучэнцаў фігуруе і прафсаюзны лідэр Ганчарык.**

— Магчыма, у прыватных гутарках узнікаюць такія размовы.

**— Увогуле, пытанні палітыкі рабочых цікавяць ці не цікавяць?**

— Я лічу, што цікавяць. Мая думка такая, што на прэзідэнцкіх выбарах раўнадушных не будзе.

**— А цяпер? Заявы апазіцыі знаходзяць нейкі водгук?**

— Магчыма, у прыватных гутарках. А вось як ацэньваюць?.. Кожны па-свойму.

**Пытанні задаваў Алесь ДРАБЧУК.**



# Доярки пели и плясали

К концу зимовки скота, когда на фермах больше озабочены дефицитом кормов, в Кричевском районе вдруг объявили музыкальный конкурс... животноводов. В деревню Сокольничи съехались певцы и танцоры со всех ферм района. Не сказать, чтоб у них у всех была причина радоваться достигнутым успехам, тем не менее встреча работников животноводства оказалась не только праздничной, но и полезной для дела. Здесь не только пели и плясали, но и знакомились, делились опытом, наводили мосты для сотрудничества.

**На снимке:** *доярка колхоза "Память Ленина" Алёна ШКРЕДОВА.*

**Фото Валерия БЫСОВА, БелТА.**

# Нары, краты, кулакі

## Гэта можа чакаць кожнага, хто шукае справядлівасці ў міліцыі

7 мая грамадзянін Сяргей Андрэевіч Заліпскі рухаўся па вул.Батанічнай у бок Батанічнага сада. Насустрач ішоў мужчына гадоў 60, сівы, даволі інтэлігентнага выгляду і — крыху "вясёлы", што тлумачылася канцом рабочага тыдня, прайшоўшымі і надыходзячымі святамі, адсутнасцю ў Беларусі "сухога закону" і ўвогуле — пятніцай.

А непадалёку ішоў мужчына, не зневажаючы годнасць грамадзян сваім выглядам, як пішуць у пратаколах. Выгляд быў нармальны, лічыць Сяргей Андрэевіч. Тут з'яўляюцца міліцэйскія "Жыгулі" (дзяржнумар 15-64 МН, бартавы — 1504). Аўто спыняецца каля мужчыны, выходзіць супрацоўнік органаў і пачынае цягнуць мужчыну ў салон. Заліпскага гэта ўсё вельмі цікавіць, ён падыходзіць і чуе, як кажа мужчына: "Так, я выпіў, але іду сабе дадому". Тым часам справа набывае дрэнны паварот, мужчына хапаецца за саломіну: "Людзі! Дапамажыце!". Нейкая жанчына азіраецца і... працягвае свой шлях. А Заліпскі такі ўмешваецца. На сваю бяду.

Сяргей Андрэевіч спрабуе высветліць, за што забіраюць грамадзяніна. У адказ чуе: "А ты хто такі?! А ну, пакажы дакументы!". Заліпскі паказвае, тлумачыць, што ён — афіцэр запаса. Тая акалічнасць, што чалавек абсалютна цвярозы, моцна здзіўляе міліцыянераў. Яны нават тлумачаць, куды павязуць затрыманага.

І Сяргей Заліпскі едзе па ўказаным адрасе. Гэта Першамайскае РАЎС, гарадское аддзяленне міліцыі, што на вул.Уручская, у скарачэнні — ГАМ. Што ў прынцыпе недалёка ад ісціны: ГАМ — і вас няма. Такім чынам, Заліпскі трапляе ў гэты самы ГАМ, нібыта Іона ў страўнік кіта. Тут і здарылася ўся далейшая кафкіяна напалову з гафманіядай.

У дзяжурцы нікога не было, апрача затрыманага мужчыны. Той вельмі здзівіўся і напужана спытаў: "Навошта вы сюды прыехалі?! Тут такое робіцца...". У справядлівасці гэтых слоў Сяргей Андрэевіч хутка пераканаўся.

Раптам узнік капітан і адразу пачаў крычаць: "Ты хто такі? Што тут робіш? Хто цябе сюды пусціў? Ідзі адсюль, тут табе рабіць няма чаго!". Заліпскі так не лічыў і патлумачыў сваю мэту. Спроба весці культурны дыялог поспеху не мела: капітан схапіў Заліпскага і пацягнуў на ганак. Там капітан даў Сяргею Андрэевічу ў сківіцу і парваў куртку. Заліпскі адказаў па-талстоўску: "Я супраціўляцца не буду, але гэта так не пакіну". — "Ну, значыць, будзеш тут сядзець!".

Так намеснік дырэктара фірмы "Канфідо", маёр запасу, былы начальнік аддзела ваеннага завода, былы ваенны дазнавацель, шкодных звычак не мае, па рабоце характарызуецца як чалавек спакойны, неканфліктны, разважлівы, адказны, — упершыню трапіў за краты. "Памяшканне камернага тыпу" маёр запасу, канешне, бачыў. Але сядзець не даводзілася. Ну вось, давялося. Камера была маленькая, з нарамі, акенцам з аргшкла, непрыемным, "турэмным" пахам, — абстаноўка строга спартанская. Настройвае на філасофскі лад.

Нарэшце з'яўляецца начальнік гэтага ўсяго, таксама маёр в.а. начальніка, калі быць дакладным — Аляксандр Міхайлавіч Шлячын. Заліпскі спрабуе звярнуць на сябе ўвагу. "Разбяромся". Сяргей Андрэевіч супакойваецца. Вось і капітан зайшоў, у даволі мірным настроі: "Ну, што з табой рабіць?" — "Па законе рабіце. Але я так справу не пакіну". — "Ах, ты так?!" І маёру запасу зрабілі "па законе".

На яго склалі пратакол за дробнае хуліганства, арт. 156 КоАП Рэспублікі Беларусь. Далі пачытаць "дробнаму хулігану". Заліпскаму запомнілася: "Уварваўся ў аддзяленне міліцыі, спрабаваў вызваліць затрыманага. Нецэнзурна выказваўся...". Сяргей Андрэевіч тут жа піша сваю версію здарэння, а пратакол не падпісвае. І, натуральна, вяртаецца ў "памяшканне камернага тыпу".

Дома ў яго тым часам пануе лёгкая паніка: бацька, муж і сын некуды прапаў. Дзякуй Богу, нейкі сяржант пашкадаваў, пазваніў Заліпскаму дадому. Праз нейкі час Сяргей Андрэевіч пачуў голас бацькі, а следам — голас міліцыянера: "Мы яго дадому выганялі, а ён не хоча. Няхай пасядзіць". З бацькам пагаварыць не далі.

Але вось і ранак. Прыходзіць маёр Шлячын і пачынаецца працэдура выхаду на волю. Можа быць, гэта апошні шанц дабіцца справядлівасці, і Заліпскі горача даказвае, у чым сутнасць яго справы, паведамляе, што яго збілі. "А я гэтага не бачыў", — адказвае маёр Шлячын і ўручае маёру Заліпскаму "рахунак" за атэль "Разбітых сэрцаў і сапсаванай рэпутацыі".

***

Мне ўдалося адшукаць маёра Шлячына. Цікавая ў нас з ім была размова. Як цяпер кажуць, у чымсьці знакавая.

— Заліпскі? Так, памятаю такога. Што тут можна сказаць? Увогуле, нейкі дзіўны чалавек... Ехаць за 10 кіламетраў, дзеля чаго? Яны ж нават і незнаёмыя з затрыманым!

Далей Аляксандр Міхайлавіч больш-менш дакладна перадаў мне змест першакрыніцы — пратакола. У сэнсе Заліпскі выказваўся нецэнзурна, на дзве (!) гадзіны перашкодзіў рабоце цэлага аддзялення міліцыі. Ды хто яго прасіў лезці куды не трэба?! Мы, маўляў, самі ведаем, каго забіраць, а каго — не.

Ну, і далей, як па пісаным: Заліпскі вінаваты, таму што вінаваты. Універсальная формула — хто вінаваты, мы вызначым самі. Альбо: ёсць маё меркаванне, і ёсць няправільнае. Маёр Шлячын парэкамендаваў мне звяртацца ў пракуратуру. Верагодна таму, што ведаў вынік такога звароту.

Сяргей Андрэевіч зняў у паліклініцы пабоі і напісаў заяву ў пракуратуру Першамайскага раёна г.Мінска. Тут увогуле цікавы псіхалагічны феномен: чалавек, народжаны ў СССР, выхаваны на прынцыпе "чалавек чалавеку — сябра, таварыш і брат", дзейнічаў па стэрэатыпе. Не зважаючы на тое, што месца і час ужо іншыя. Рэчаіснасць хутка паставіла яго на сваё месца.

31 мая Сяргей Заліпскі быў выкліканы ў пракуратуру Першамайскага раёна разам з бацькам. Следчага яны не дачакаліся: ён быў на судзе. Сустрэча адбылася толькі 10 чэрвеня. Следчы ўвесь час некуды выходзіў, размова часта перарывалася, і Сяргею Андрэевічу дагэтуль няясна, што з яе можна атрымаць следчаму. Але — нешта атрымаў, і Сяргею Андрэевічу прыйшоў адказ з пракуратуры: ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмовіць. Іншымі словамі, Сяргея Заліпскага ніхто не затрымліваў, не біў, не штрафаваў? Разумець трэба так.

Аднак Заліпскі звяртаецца ў пракуратуру г.Мінска. Гэта ўжо вышэйшыя сферы. І начальнік аддзела М.А.Стасевіч абнадзейвае: "...Пасля вывучэння матэрыялаў праверкі па вашай заяве пастанова пракуратуры Першамайскага раёна адменена і прызначана дадатковая праверка. Аб яе выніках пракурору раёна даручана паведаміць вам".

Ну, і далей з гарадской пракуратуры Заліпскага яшчэ раз абнадзеілі. У дзеяннях інспектара-дзяжурнага Крыпіневіча ўгледжаны прыкметы дысцыплінарнага праступка, а пракурору Першамайскага раёна прапанавана ўнесці прадстаўленне на імя начальніка ГУУС Мінгарвыканкама і прынесці пратэст на пастанову аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці С.А.Заліпскага.

Няўжо перамога?! Калі б ваш пакорны слуга не нарадзіўся ў гэтай краіне і не пражыў тут усё свядомае жыццё, то, мажліва, і паверыў бы. Не дае паверыць уласны вопыт. Так што адказ пракурора раёна не падаўся мне нечым непрадказальным: "...падстаў для ўнясення пратэсту няма...". І гэта вельмі цікава. Гарадская пракуратура лічыць, што парушэнне закону было, раённая — не. Нават губляешся ў меркаваннях. Напрыклад, закон у нас — гэта што? Усё-такі дышаль ці сапраўды закон? У пракуратурах living рознага ўзроўню закон разумеюць па-рознаму? А калі так, то ці можа звычайны грамадзянін адчуваць сябе пад абаронай закону?

***

Каго мне шчыра шкада ў гэтай гісторыі, дык гэта Сяргея Андрэевіча Заліпскага. Нават не за тое, што пераначаваў у камеры немаведама за што. Мы з ім сустрэліся, канешне, і Сяргей Андрэевіч пакінуў у мяне ўражанне чалавека, у якога згублена вера — распаўсюджаная ў наш час хвароба. Вось да гэтага моманту верыў, а пасля гэтага — як адрэзала. Ён, напрыклад, верыў, што "мая міліцыя мяне беражэ". Цяпер не верыць. Не можа. Не атрымліваецца. Апошні тэлефонны абмен меркаваннямі ў нас быў такі:

— Вы ведаеце, плюнуў я на ўсё гэта... Нічога не дакажаш... Нічога.

— Як Вы цяпер ставіцеся да міліцыі?

— Стараюся абыходзіць як мага далей...

А штраф Сяргей Заліпскі так і не заплаціў. Можа быць, гэта і парушэнне закону. Толькі я тут — цалкам на яго баку. Такія, як Заліпскі, сустракаюцца ў нас адзін на тысячу пакрыўджаных. Звычайная рэакцыя — лепш прамаўчаць, заглынуць крыўду разам са слязьмі і... забыцца.

Так што нічога дзіўнага: мы атрымалі такую дзяржаву, якую хацелі. Бо нам хочацца парадку не ў мазгах, а... проста парадку. Ты не з намі? Ты думаеш не так? Ты нечым адрозніваешся ад мяне? Значыць, ты вораг, і я цябе не люблю. Дый увогуле, у нас дарэмна не саджаюць.

Называецца — паліцэйская дзяржава.

**Андрэй СЯРЖАН.**

Позиция

# Вторая попытка



*Николай Статкевич.*

**Довыборы в Палату представителей, назначенные на 18 марта 2001 года, едва ли привнесут какие-либо существенные изменения в состав и расстановку сил в этом законодательном органе нынешней власти. Пожалуй, со стопроцентной очевидностью можно прогнозировать, что все 13 (!) пустующих пока кресел обретут своих временных хозяев, статус которых будет полностью соответствовать нуждам текущего момента. То есть, как это и было на прошлогодних осенних выборах, их организаторы приложат максимум усилий для того, чтобы и на этот раз прошли "самые достойные".**

**В этой связи вызывает некоторое удивление то, что в рядах соискателей присутствуют и те две оппозиционные партии (Партия коммунистов Белорусская и Белорусская социал-демократическая партия "Народная Грамада"), чьих кандидатов поголовно "прокатили" осенью. По мнению неангажированных наблюдателей, позиция белорусских либерал-демократов, игнорирующих довыборы, более логична: еще раз обжигаться на молоке они не пожелали. Судя по всему, все свои силы и возможности они уже сегодня сосредоточили на подготовке к главному сражению за высший пост в государстве.**

**Руководители же оппозиционных коммунистов и соцдеков из "Народнай Грамады" придерживаются прежних взглядов. Обобщенно их можно свести к единому лозунгу: без борьбы нет побед. Даже если на определенном этапе борьба оборачивается неудачами. В этих случаях, считают они, и отрицательный результат — тоже результат. Уроки пригодятся на будущее. И в этом, пожалуй, есть свой резон.**



*Сергей Калякин.*

## Сергей КАЛЯКИН, первый секретарь ПКБ:

## "Пусть знают: за фальсификациями может последовать судебное преследование"

*— Для того чтобы понять, почему мы решили принять участие в этих довыборах, необходимо оглянуться назад.*

*На прошедших осенних мы участвовали довольно-таки мощно — выдвигали 71 кандидата. К сожалению, ни один из них не был избран. Вместе с тем мы считаем, что результат, которого нам удалось достигнуть в тех тяжелейших условиях, дает основание для некоторого оптимизма: за наших кандидатов проголосовало 12,3 процента избирателей. А это означает, что наших людей, наши идеи поддерживает значительная часть населения.*

*Решив принять участие в выборах, мы ни на миг не сомневались в том, что действующая власть предпримет все меры, чтобы не пропустить в парламент представителей прогрессивной части общества. Мы знали, что будет искажение результатов и иные нарушения избирательного законодательства. Активно участвуя в выборах, мы как раз и способствовали вскрытию и фиксации таких нарушений. Наши многочисленные общественные наблюдатели основательно дополнили картину того, что же на самом деле происходило и произошло под видом, как утверждает власть, "подлинно демократических выборов". Все это позволяет сделать, по крайней мере, два основных вывода.*

*Первое: нынешняя власть уже не способна удерживать ситуацию и сохранять бразды правления в собственных руках цивилизованными средствами и методами. Она вынуждена усиливать административное давление на общество и оппонентов, прибегая к многочисленным фальсификациям, грязным пропагандистским технологиям и прямым нарушениям даже того несовершенного избирательного законодательства, по которому проходят выборы. Выиграть их честно, соблюдая минимальные демократические стандарты, нынешняя власть не может. Это стало уже очевидным для всех, в том числе и для самих "победителей".*

*Второе: власть пока еще обладает административными ресурсами, необходимыми для того, чтобы выполнять задачи самосохранения. Но ресурсы эти на исходе. Об этом свидетельствуют многочисленные факты открытых фальсификаций. В качестве примера можно вспомнить то, что происходило в Минске. Уже после объявления результатов выборов, которые были провальными для их организаторов, власть произвела соответствующие "корректировки", удивившие даже видавших виды людей.*

*Мы не питали иллюзий на тот счет, что, попав в ныне существующий парламент, сможем что-то в нем изменить, претворить в жизнь через нормальную законодательную процедуру те или иные наши идеи. Но мы прошли один этап тренировки. Довыборы — дополнительная тренировка наших кадров, возможность проверки некоторых новых подходов и разработок. Одной из самых важных — совершенствование системы общественного наблюдения. Уже наработанный в этом деле опыт подсказывает: недостаточно лишь фиксировать нарушения, надо сделать все, чтобы не допустить, упредить их своими активными контрдействиями. Государственные чиновники, которые по тем или иным причинам причастны или могут быть причастны к манипуляциям в ходе избирательного процесса, должны точно знать, что все их противоправные действия будут зафиксированы, преданы публичной огласке и по этим фактам возбуждено судебное преследование. Это знание может многих остановить. Повторяю, мы не питаем особых иллюзий по поводу результатов этих довыборов. И тем не менее делаем все максимально возможное для успеха наших кандидатов.*

Первый секретарь ПКБ С.И. Калякин не принимает участия в довыборах. Оппозиционные коммунисты выставили на них 11 своих кандидатов в Минске, Бресте, Барановичах, Борисове и Витебске. И что бы ни говорил Сергей Иванович, они, конечно, надеются на определенный успех. И это нормально. Уж если ты втянулся в соревнование, то надо сделать все, чтобы выиграть.

Председатель БСДП "Народная Грамада" Н.Статкевич решил предпринять вторую попытку и баллотируется по тому же Калиновскому избирательному округу Минска, где минувшей осенью занял вторую позицию по поданным за него голосам. Народнограмадовцы выставляют шесть своих кандидатов в Минске, Бресте, Борисове и Витебске. Причины, побудившие их пойти на довыборы, в чем-то схожи с теми, о которых говорил С.И. Калякин. Хотя есть и некоторые нюансы.

## Николай СТАТКЕВИЧ, председатель БСДП "Народная Грамада":

## "Мы должны идти к людям..."

*— И тогда — осенью 2000 года, и теперь нас упрекают в том, что мы, одна из наиболее влиятельных оппозиционных партий, пошли на выборы, которые были определены как фарс. При этом почему-то забывается, что мы были одними из главных пропагандистов и агитаторов внутри страны и на международной арене, призывающими не признавать выборы в палату честными, открытыми и демократическими. И что в ходе таких выборов не может быть избран легитимный орган представительной власти.*

*Уже тогда возникла проблема: стоит ли терять выборную кампанию, в ходе которой легально и относительно широко можно обратиться, пойти к людям? На мой взгляд, ни одна уважающая себя политическая организация, ставящая целью вхождение во власть, не может и не должна пренебрегать такими возможностями.*

*Придерживаясь общей стратегии оппозиции, партия объявила о своем неучастии в выборном фарсе. Но мы не могли запретить участвовать в избирательной кампании тем ее членам, кто этого желал, посчитав, что такой запрет будет нарушением их гражданских прав.*

*Известно, что из 30 наших кандидатов никто не прошел. Не будем детально разбирать почему именно. Подобная участь постигла всех оппозиционных кандидатов. Это бесспорное "достижение" организаторов выборов.*

*Но известно и другое. Наши люди собрали около 200 тысяч подписей и около 250 тысяч избирателей отдали им свои голоса. Их уже сегодня можно расценивать, как активный резерв для предстоящих президентских выборов.*

*Решив вопрос об участии в довыборах, мы руководствовались не желанием попасть в нелегитимную Палату представителей. Мы рассматриваем довыборы как первый этап президентской избирательной кампании.*

*Практически во всех регионах страны у нас достаточно людей, способных консолидировать вокруг себя демократическую общественность. Это в первую очередь наши кандидаты, создавшие команды. Это те, кто активно работал по сбору подписей. Чем больше будет таких людей, тем больше шансов на успех. Ведь они достаточно полно знают тонкости избирательного законодательства, ознакомились с системой тех ловушек, которые расставляют исполнительная власть и избирательные комиссии, препятствуя демократическим кандидатам. Мы смотрим в будущее. Ведь впереди выборы президента, потом в местные советы, а там опять в парламент...*

*Что же касается нынешних довыборов, то особых иллюзий на их более-менее благоприятный для нас исход мы не питаем. Что, впрочем, не снижает активности наших людей. В случае, если кто-либо из них и попадет в парламент, мы не позволим использовать их в качестве декораций в театре одного актера. На сей счет у нас есть свои наработки, исключающие возможность превращения наших депутатов в обслуживающий персонал нынешней власти.*

*Мы не можем бесконечно долго ждать, когда у нас созреют благоприятные условия для проведения честных и открытых выборов как единственного цивилизованного средства мирной передачи власти. Мы должны сами создавать эти условия. Даже в той крайне сложной обстановке, в которой оказалась страна. Это не только мое мнение, но и мнение подавляющей части нашей партии. Мы знаем — общество ждет перемен. Общество уже созрело для них. И мы должны идти к людям, используя любые возможности.*

**Вот с такими настроениями и планами идут две оппозиционные партии на довыборы. Вскоре мы узнаем их результаты. Не исключено, что в тех 13 еще пустующих депутатских креслах появятся те, кто, прежде чем нажимать кнопки "за" и "против", будет серьезно задумываться над смыслом своих действий. Впрочем, не будем гадать...**

**Георгий ЛИСОВСКИЙ.**

Из первых уст

# Врачам добавили денег

*По словам министра здравоохранения Игоря Зеленкевича, с 1 марта заработная плата медиков увеличилась на 50 процентов*

Как ни странно, министр согласен, что сегодня медики получают зарплату, неадекватную своему труду. И говорит, что его ведомство мечтает, как повысить заработную плату врачам. И мартовское повышение зарплаты медикам на 50% — это заслуга не Минфина, а Министерства здравоохранения. Правда, есть ли причина министру гордиться — большой вопрос. В марте, между прочим, в стране на 50% процентов увеличилась минимальная заработная плата. А это значит, что в очередной раз поднимутся цены на продукты, подорожает проезд в общественном транспорте и т.д. и т.п.

Справедливости ради стоит сказать, что Минздрав пытается замолвить в правительстве слово о бедных медиках. В конце года, например, врачи получали в среднем 131 тысячу. Как рассказал Игорь Зеленкевич, "специально перед Новым годом все деньги, которые были на счетах медицинских учреждений, выплатили медикам. Хотя обычно распределение финансов идет так: 40% — на заработную плату, 60% — на укрепление материально-технической базы".

Уже в январе в расчетных квитках врачи увидели другие цифры. Их заработок за первый месяц 2001 года составил в среднем 117 тысяч. Как говорится, погуляли — и хватит. Причем ни для кого не секрет, что и врачи, и медицинские сестры, и санитарки работают в основном на полторы ставки.

— 117 тысяч — много это или мало? Конечно, этого недостаточно, — говорит Игорь Зеленкевич. — И министерство пытается изменить ситуацию. То, что в марте зарплаты медиков возрастут на 50%, заслуга нашего ведомства.

**— Можно ли уточнить: на 50% возрастут зарплаты всех медицинских работников?**

— Мы не сторонники того, чтобы санитарка получала больше, чем профессор. Зарплата должна быть дифференцированной. Каждый должен получать за качество своего труда. Сейчас в Гомеле на базе ряда медучреждений проводится эксперимент по контролю за качеством труда, и медперсонал получает соответствующую зарплату. Должен быть стимул, надо, чтобы качественный труд оплачивался больше.

**— А какие еще предпринимаются попытки, чтобы обратить внимание правительства на заработную плату в системе здравоохранения? Меня, например, удивил тот факт, что комитет Белорусского профсоюза работников здравоохранения категорически отказался от участия в февральской акции протеста "Зарплату — на уровень цен". Что, наши врачи довольны своей зарплатой?**

— Нет, не довольны. Я тоже член профсоюза, и взносы плачу через бухгалтерию. Но я считаю, что большинство вопросов вполне можно решить путем работы в Минтруде и в Минфине. Общество сколько может, столько и платит.

**— Из Научно-исследовательского института охраны детства и материнства ушло 23 сотрудника только потому, что получали мизерную зарплату...**

— Так сложилось, что научные сотрудники получают меньше врачей. В конце прошлого года, например, оклад профессора, доктора медицинских наук в области кардиохирургии составлял 60 тысяч. А этот человек делает уникальные операции...

Почему возникла такая проблема? Это связано с финансированием той научной тематики, которую осуществляют НИИ. Часть этих денег идет на зарплату сотрудников. А когда эти деньги не индексируются...

Какой выход? Надо искать новые организационные структуры. Например, НИИ кардиологии мы преобразовали в Республиканский научно-практический центр кардиологии. Там нет разделения на чисто научных сотрудников и врачей. И люди стали получать нормальную зарплату. Такая же проблема существует и в других НИИ. Создание научно-практических центров — это будущее, и такие центры мы будем создавать.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

Рэгіён

# На камісію за прастытуцыю

За апошні год адміністрацыйнай камісіяй Крычаўскага райвыканкама было разгледжана больш за 400 спраў.

Лідэрам сярод парушэнняў з'яўляецца нагнаўшае ўжо аскому п'янства на вытворчасці. Нават страх апынуцца ў шэрагах беспрацоўных не стрымлівае тутэйшых жыхароў ад спажывання спіртовых напояў прама на працоўным месцы. За прыхільнасць да "зялёнага змія" было пакарана 189 крычаўцаў. На другім месцы справы, якія тычацца тых, хто не падтрымлівае часціню вакол жыллёвых і адміністрацыйных будынкаў. Такіх спраў было 150.

Далей ідуць пакаранні за парушэнні пашпартнага рэжыму (44 справы), парушэнні правілаў гандлю (35 спраў), продаж спіртных напояў непаўналетнім (8 спраў).

Цікава, што дзве маладзіцы былі пакараны за прастытуцыю.

# Металісты

Апошнім часам на Клімаўшчыне, як і на большай частцы Беларусі, назіраецца імклівы рост крадзяжоў каляровых металаў. На працягу года было ўзбуджана 68 крымінальных спраў адносна асоб, якія ўчынілі падобныя злачынствы.

Злодзеяў не пужае не толькі магчымасць апынуцца за кратамі, але і рэальная небяспека для жыцця. Як сцвярджае няўмольная статыстыка, ужо тры клімаўцы загінулі ад паражэння электрычным токам пры спробе дэманціраваць токанясучыя часткі электраўстановак, што ўтрымлівалі каляровыя металы.

Маштабы скрадзенага сапраўды ўражваюць. Так, у лютым быў затрыманы жыхар г.Клімавічы нехта О.К., які на працягу двух гадоў незаконна набыў у грамадзян больш за 6000 кг каляровых металаў. Па словах затрыманага, набыты метал ён рэалізоўваў у Расійскай Федэрацыі.

# Цяжка жыць без працы!..

На ўліку ў Чэрыкаўскім цэнтры занятасці сёння — 226 беспрацоўных. Гэта ў асноўным маладыя людзі ва ўзросце 20—24 гады, якія маюць рабочую спецыяльнасць. У большасці выпадкаў гэта жанчыны.

Па стане на пачатак бягучага года 88 беспрацоўных чэрыкаўцаў атрымлівалі грашовую дапамогу ад дзяржавы. Сярэдні памер такой дапамогі складае 4647 рублёў (!) у месяц.

Каб знізіць беспрацоўе, цэнтр занятасці на працягу года выдаў аж дзве субсідыі: адну ў памеры 364,5 тысячы рублёў для арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці, другую ў памеры 177,4 тысячы рублёў для выезду на вёску адной чэрыкаўскай сям'і.

**Андрэй КУЗЬМІН.**

**Інфармацыйная служба "Кантакт-цэнтр".**

